**Нічыпар ШЭРАНЬКІ**

## Клоп і кампанія

*Байка*



Зялёны Клоп
Ад злосці соп:
Ніхто ў кампанію не запрашае,
А дзе калі ён і бывае,
З агідай кожны моршчыць лоб.
І вось пачуў ён неяк –
У Жука
Чакаецца чарговая гулянка.
І Клоп наш надушыўся густа
з ранку,
Зялёны пыл абтросшы з пінжака,
На баль падаўся той як госць
нязваны.
І як жа быў прыёмам узлаваны,
Калі, уздзёршы з пыхаю вусы,
Зноў адвярнулі ўсе свае насы.

***

Паўсюль, дзе б ні сядзеў ты
за сталом,
Не будзь Клапом.

## Дакор

*Байка*



Казаў Пацук праз шчыліну Кату:
Цябе я абыходжу за вярсту!
Не раз твае, зладзюга, кіпцюры
Мяне цягнуць імкнуліся з нары,
А вострыя іголкі-іклакі
Нярэдка прагна рвалі мне бакі.
Каб нюх згубіў ты і хутчэй аслеп,
То быў бы мой увесь з харчамі
склеп!

***

І тыя кажуць гэтак, што не раз
З мячом вайны прыходзілі
да нас.

**Андрэй СІДАРЭЙКА**

## Псеўданім

*Гісторыйка*

У кабінеце зазваніў тэлефон. Малады журналіст Сяргей Іваноў узяў слухаўку.

– Дзень добры! – як мага спагадлівей прамовіў ён.

На тым канцы провада пачуўся мужчынскі голас. Яго ўладальнік быў настроены рашуча.

– Мне Ягора Дубцова трэба, – прабасіў незнаёмец.

Такога карэспандэнта ў выданні не існавала. Гэта быў псеўданім Іванова. Зразумеўшы, што пахне смаленым, журналіст вырашыў схітрыць:

– Дубцова пакуль няма. Ён на заданні.

– Пашанцавала, – пачулася на тым канцы. – А то напісаў, што быццам я, Іван Сідараў, перавёз дваццатага ліпеня ўсяго дзве тоны збожжа. Хлусня. За мной усе пятнаццаць!

– Так, так, – адказаў Іваноў. – Мы абавязкова Дубцову перададзім. І вашы працоўныя паказчыкі ў наступным нумары ўдакладнім.

– Вялікі вам дзякуй, – адразу ж памякчэў голас. – З кім маю гонар размаўляць?

– Сяргей Іваноў.

– Вось вы добра пішаце, – пачулася адабральнае. – Дубцову трэба ў вас павучыцца. Усяго вам найлепшага.

Не паспеў карэспандэнт пакласці трубку, як тэлефон пачаў тарабаніць зноў.

– Слухаем вас, – добразычліва павітаўся журналіст.

– Іваноў на месцы? – запытаўся грубы мужчынскі голас.

Карэспандэнт і ў гэты раз вырашыў пайсці на хітрыкі.

– Ён у тэрміновай камандзіроўцы.

– Шкада, – прагучала на тым канцы провада. – Ведаеце, ён быў у нашай гаспадарцы, пісаў матэрыял, але пераблытаў прасаванае сена з падпрасаваным. Як так?

– Прабачце, калі ласка. Мы ўдакладнім гэты момант у наступным нумары. А Іванову зробім заўвагу.

– Дзякуй. Як вас зваць?

– Ягор Дубцоў.

– Чыталі, добра пішаце. Вось Іванову трэба ў вас павучыцца. Усяго добрага. Плёну!

Малады карэспандэнт паклаў трубку і выдыхнуў. Ён быў вельмі ўдзячны таварышам па пяры, якія параілі яму ўзяць псеўданім. Як-ніяк, а з ім працаваць у газеце было лягчэй.

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Пётр КОЗІЧ.




Аляксандр ПЯТРОЎ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




**Міхась МІРАНОВІЧ**

## Лабірынт



У лабірынце
Заблукаў
І доўга выхад
Там шукаў.
Не здагадаецца
Фядот,
Што выхад –
Той жа уваход!..

## Адтэрміноўка



Згадзіцеся,
Сябры мае,
Такі расклад
Усе мы маем:
Адтэрміноўку
Смерць дае –
Яе жыццём мы
Называем.

## Беражыце нервы!

Вытрымкі,
Што ні кажыце,
Сёння многім

Нестае.
Нервы, людцы,
Беражыце –
І чужыя,
І свае!



## Незавершаны рэйс

Маёй вандроўкі
Мог канец настаць,
Ды толькі рэйс апошні
Быў няўдалы:
Да берага твайго
Хацеў прыстаць,
Але былі заняты
Ўсе прычалы...



## Слова

У слове – сіла.
Я вам не хлушу,
Бо без яго ў нас
Не было б гамонкі.
Запасці слова
Можа у душу,
Бывае ж,
Уядаецца ў пячонкі!




## Адзіны спосаб

На старасць крыўдзімся
Дарэмна,
Калі жыццё
На схіл бяжыць.
Старэць, вядома,
Непрыемна,
Ды як інакш
Даўжэй пражыць?



*г. Віцебск.*




Алег КАРПОВІЧ.



Алег ГУЦОЛ.



# Гора-рамантык і буркатлівая свякруха




*Фельетон*

Вы, безумоўна, таксама адчулі, што інтэрнэт прынёс у наша жыццё шмат новага. Для адных ён стаў месцам працы і дадатковага заробку, для іншых – сродкам пошуку інфармацыі. Але для 35-гадовага мінчаніна Аляксея інтэрнэт – бясконцая крыніца забаў. Сапраўды, віртуальныя рэсурсы для адпачынку лідзіруюць у рэйтынгах, а ўжо колькі развялося сацыяльных сетак – нават немагчыма падлічыць!

Адной раніцай Аляксей зарэгістраваўся на сайце «Вконтакте». Мужчына быў у прадчуванні: сябры распавядалі, што там лёгка пазнаёміцца з дзяўчынай. Увесь дзень ён праглядаў профілі прыгажунь і, нарэшце, знайшоў Тую Самую. Звалі яе Паліна.

Часу губляць наш герой не хацеў, таму адразу, без усялякіх там «Прывітанне, як справы?», напісаў у асабістыя паведамленні: «Прапаную сустрэцца, красуня». І амаль адразу атрымаў адказ: «Дзякую, але не варта».

– Чакайце, як гэта? Што ёй не спадабалася? – абурыўся ўслых Аляксей. – Вось царэўна знайшлася!

Мужчына падумаў хвіліну і зноў напісаў дзяўчыне: «Краля!»

Магчымасць заставацца ананімным яго толькі заахвочвала. Зразумела, што інтэрнэт усталёўвае сваю культуру зносін, тут усё неяк па-сяброўску і не так афіцыйна, як у паўсядзённым жыцці. Можна спакойна перапісвацца з незнаёмымі людзьмі, практычна ніхто не крыўдзіцца на зварот «ты». Асабліва Аляксей любіў назіраць за рэакцыяй суразмоўцы, калі таго абразіць «моцным» словам. Гэта прыносіла шчырае задавальненне.

Перапісваючыся на адлегласці, не гледзячы суразмоўцы ў вочы. Аляксей пазбавіўся многіх сваіх комплексаў. З цягам часу, карыстаючыся ананімнасцю, ён стаў адкрыта хаміць. І паверце, што «Краля!», кінутае Паліне, гэта самае лёгкае і прыстойнае, што мужчына мог ёй напісаць.

Так, аднойчы, працягваючы пошукі дамы сэрца, Аляксей натыкнуўся на старонку Вікторыі: 20 гадоў, студэнтка. А галоўнае – прывабная, з цудоўнай фігурай! Вырашыў пачаць заляцанні. А лепшы спосаб, як думалася мужчыне, – гэта пракаменціраваць кожны фотаздымак. Шкада толькі, што хутка прыстойныя кампліменты скончыліся. Тады пайшла нецэнзурная лексіка. Якім жа было яго здзіўленне, калі наступнай раніцай атрымаў паведамленне ад прыгажуні: «Прывітанне. Ваша ўвага мне не вельмі прыемная. Спыніцеся і не пішыце больш».

Але на гэтым справа не скончылася. Дзяўчына не магла дараваць мужчыне крыўдныя словы, таму раздрукавала старонкі з каментарыямі і звярнулася ў міліцыю. У выніку гора-рамантык заплаціў 230 рублёў за абразы.

Павучальная гісторыя здарылася і з Таццянай. У яе даўно ўжо не складваліся адносіны са свякроўю. Тая раўнавала да сына, меркавала, што нявестка псуе паміж імі адносіны. Але па праўдзе, гэта былі толькі фантазіі старой буркатлівай жанчыны. Тая ўспрымала ўзнікненне канфліктных сітуацый як радасную падзею ў сваім статычным, спакойным, як балота, жыцці. Усім знаёмым кожны раз пры сустрэчы жалілася:

– Таццяна самы сапраўдны энергетычны вампір, прынесла ў наша дружнае сямейства яблык разладу! Мой сыночак зусім на мяне забыўся, а я ж яго так люблю, маю крывінку.

Дзяўчына намагалася не рэагаваць на правакацыі мужавай маці і імкнулася не прымаць блізка да сэрца крыўдныя словы. Але нядаўна ў сям'і ізноў адбылася сварка: жанчыны ніяк не маглі дамовіцца, дзе святкаваць юбілей сына/мужа. Таццяна запрашала да сябе, але свякроў зацята пратэставала. Ці накрые маладая па-сапраўднаму святочны стол? Ці прыбярэ кватэру па-святочнаму? Бо гэта ж не проста чарговы дзень нараджэння, а юбілей! Таццяна спакойна прымала ўсе «кампліменты» ў бок сваёй гаспадарлівасці.

Калі, здавалася, свякроў пагадзілася, Таццяна пакрыху пачала падрыхтоўку. Але раптам дзяўчына атрымала паведамленне: «Я падумала і вырашыла, што святкаваць будзем у нас». Таццяна не вытрымала і напісала ёй адказ, дзе ўпершыню аблаяла жанчыну.

На заўтрашні дзень Таццяна даведалася, што свякроў звярнулася ў міліцыю. Дзяўчыну прыцягнулі да адказнасці: абразіла ў перапісцы – значыць, вінаватая.

Вось чаму пры зносінах у інтэрнэце неабходна кіравацца няпісанымі, але агульнавядомымі нормамі паводзінаў. Бо абразы там хоць і віртуальныя, а тэрміны і пакаранні за іх цалкам рэальныя.

**Алеся НІКІФАРАВА,**
*г. Віцебск.*

# Дыялогі



– Доктар, прашу вас, прыязджайце! У маёй жонкі моцны прыступ апендыцыту!

– Не хвалюйцеся, два гады таму я зрабіў вашай жонцы аперацыю і выдаліў сляпы адростак. У чалавека не можа з'явіцца другі апендыкс!

– Правільна, доктар. Але другая жонка – можа.

* * *

Мужчына заходзіць у краму і звяртаецца да прадаўшчыцы:

– Мне патрэбны мабільны тэлефон.

– Мадэль?

– Не, сантэхнік, але ўсё роўна дзякуй, вы таксама прыгожанькая!

* * *

– Іваноў! Дзе справаздача? Ты абяцаў здаць яе пасля абеду!

– А я не абедаў...



* * *

– Я заўсёды кладу ў кішэню цыдулку з адрасам на той выпадак, каб мяне п'янага маглі даставіць дадому.

– І што вы там пішаце?

– Парыж, бульвар Манмартр.

– Але ж вы жывеце ў Чэлябінску!

– Так. Але пару разоў мяне адвозілі ў Парыж!

* * *

Бог пытаецца ў Адама:

– Ну што, ці шкада табе свае рэбры?

– Не. Толькі прадчуванне нейкае дрэннае...

* * *

Журналіст бярэ інтэрв'ю ў масцітага мастака:

– Скажыце, мэтр, у пачатку творчай кар'еры вашым самым вялікім гонарам, напэўна, была першая персанальная выстава?

– Не, гэта быў той момант, калі міліцыя мне паведаміла, што з мясцовага музея скралі менавіта маю карціну!

* * *

На прыёме на працу:

– Назавіце вашыя моцныя бакі.

– Настойлівасць!

– Дзякуй, мы звяжамся з вамі.

– Я пачакаю тут.



* * *

Мужчына вырашыў, што ягоны нямоглы бацька толькі прыносіць клопаты, таму здаў яго ў дом састарэлых. Пяцігадовы сын пытаецца:

– Ты запісаў адрас, куды адвёз дзядулю?

– Хацеў бы яго наведваць?

– Я хачу ведаць, куды мне трэба будзе адвезці цябе, калі ты станеш старэнькім...

* * *

Гісторыю музыкі ва ўніверсітэце выкладаў прафесар з вялікім пачуццём гумару. На іспытах заўсёды гучала яго-нае ўлюбёнае пытанне:

– У Баха было 30 дзяцей. Ён правёў большую частку жыцця ў...

– У ложку! – са смехам адказвалі студэнты-веселуны. Больш сур'ёзныя папраўлялі:

– У Нямеччыне.

І толькі адзін студэнт, які ведаў на практыцы, як жывецца шматдзетным сем'ям, зазначыў:

– У даўгах...



**Даслаў Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*



Аляксандр ШМІДТ.

## «Чытачка»

*З натуры*

Жонка ўкладваецца спаць і кажа мужу:

– Дай мне, калі ласка, што-небудзь пачытаць перад сном...

Муж прынёс з залы падабраную па яе гусце кнігу.

– Ой, дык я ж яе ўжо чытала! – усклікнула жонка.

Каханы ізноў пайшоў у залу і ў хатняй бібліятэцы выбраў цікавае выданне.

– Прабач, але тут папера нейкая цёмная, немагчыма чытаць тэкст...

Зноў давялося мужу шукаць кнігу.

– Ды тут вельмі дробны шрыфт, нічога не разабраць! – у каторы раз паскардзілася жонка.

Нарэшце мужчына знайшоў кнігу, якую ўхваліла б жонка: новую, на белай паперы, з вялікімі літарамі – толькі чытай! Заходзіць у спальню, а жонка ўжо спіць...

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Настаўніца гісторыі звяртаецца да вучняў:

– Хто нам скажа, як звалі тую жанчыну, з-за якой пачалася Траянская вайна?

У класе цішыня. Настаўніца падыходзіць да Алены і кажа:

– Няўжо і ты не ведаеш, Лена? Яе ж звалі так, як і цябе!

Дзяўчынка здзіўлена:

– Алена Нічыпаровіч?!



* * *

На ўроку біялогіі ў малодшых класах.

– Карыначка, адкажы, ці карысная птушка бусел?

– Не, бо з-за яе адбываецца перасяленне па ўсім свеце.

* * *

Настаўнік пытае вучня:

– Што табе нагадвае сваімі абрысамі Італія?

– Гумовы бот.

– Але чаму ж гумовы?

– Бо стаіць у вадзе!



* * *

На ўроку геаграфіі.

– А скажы нам, Яська, дзе знаходзіцца Занзібар? – пытае настаўнік у вучня.

– Я занадта малы, каб ведаць усе бары... – збянтэжыўся хлопец.

* * *

– Прыдумай просты сказ, – кажа настаўніца вучню.

– «Я іду ў кіно».

– Ізноў кіно! Колькі можна, мы ўжо Коласа праходзім. Валодзя, прыдумай больш змястоўны сказ!

– Добра. «Якуб Колас ідзе ў кіно».

* * *

– Алесь, – пытае настаўнік, – чаму буслы на зіму адлятаюць у цёплыя краіны?

– Бо людзі там таксама хочуць мець дзяцей...

* * *

Сын прынёс двойку па беларускай літаратуры.

– Ізноў двойка! – раззлавана каментуе бацька.

– Гэта праз Кузьму Чорнага, – апраўдваецца сын.

– Колькі разоў я табе казаў: сцеражыся дрэнных кампаній!



**Леў КАЗЛОЎ,**
*г. Мінск.*

# Афарызмы

Жанчыны маюць незаконную перавагу перад мужчынамі: там, дзе бяссільны розум, яны могуць пусціць у ход дурасць.

*Юл Брынэр, амерыканскі кінаакцёр*

Жанчына натхняе мужчыну на вялікія здзяйсненні, ажыццяўленне якіх потым сама ўскладняе.

*Аляксандр Дзюма-сын, французскі пісьменнік*

Быць жанчынай вельмі складана ўжо таму, што ў асноўным даводзіцца мець справу з мужчынамі.

*Джозэф Конрад, англійскі пісьменнік*

Незразумела, чаму горшыя з мужчын выклікаюць цікавасць у лепшых жанчын.

*Агата Крысці, англійская пісьменніца*

Калі жанчына называе мужчыну самым разумным, значыць, яна разумее, што іншага такога дурня ёй не знайсці.

*Невядомы аўтар*

Жанчыны разумнейшыя за мужчын: яны ведаюць менш, а разумеюць больш.

*Джордж Стывенс, амерыканскі кінематаграфіст*

Мужчыны любяць здзяйсняць валявыя ўчынкі, наступствы якіх кладуцца на плечы жанчын.

*Вільгельм Швебель, нямецкі вучоны і публіцыст*

Жанчыны рэдка памыляюцца ў сваіх думках адна пра адну.

*Агата Крысці, англійская пісьменніца*

Жанчына не перастае гаварыць пра свой узрост і ніколі яго не называе.

*Жуль Рэнар, французскі пісьменнік*




Пётр КОЗІЧ.




Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

Ёсць два спосабы камандаваць жанчынай, але ніхто іх не ведае.

*Кін Хабард, амерыканскі пісьменнік*

Самае вялікае пытанне, на якое я так і не знайшоў адказ за 35 гадоў сваіх даследаванняў чалавечых душ, гэта: «Чаго ж хоча жанчына?»

*Зігмунд Фрэйд, аўстрыйскі псіхолаг*

## Прыёмны непакой













Алег ПАПОЎ х 4.




## Як «узнагародзілі» ветэрана



*Замалёўка*

Старшыня раённай ветэранскай арганізацыі Сцяпан Міхайлавіч патэлефанаваў пенсіянеру Івану Пятровічу і паведаміў, што яго вырашылі прадставіць да абласной узнагароды.

— Вам яе ўручаць на ўрачыстым сходзе, прысвечаным юбілею ветэранскага руху.

— Лепш узнагародзіць Марыю Іванаўну, — праявіў сваю сціпласць Іван Пятровіч, — яна заслужыла...

— Пытанне вырашана, — катэгарычна адрэзаў старшыня, — і пярэчання быць не можа.

Дэлегацыя ў складзе сямі чалавек, якую ўзначаліў намеснік старшыні райвыканкама Фёдар Бадура, прыбыла ў Мінск для ўдзелу ва ўрачыстасцях за гадзіну да іх пачатку. Іван Пятровіч сустрэў многа знаёмых калег па ранейшай працы. Было што ўспомніць, як кажуць, пра маладосць, страсянуўшы сівізной. Прагучаў гімн Беларусі. Мерапрыемства пачалося. Каб не турбаваць удзельнікаў сходу падчас узнагароджання, Іван Пятровіч сеў з краю.

Адзін за другім падымаліся на сцэну шчасліўцы, якім выпаў гонар атрымаць заслужанае заахвочванне. Іван Пятровіч напружана чакаў свайго выхаду. Ён расшпіліў ніжні гузік у пінжаку, паправіў гальштук, які гарманіраваў не толькі з кашуляй, але і з касцюмам. Нягледзячы на сталы ўзрост, ветэран трымаў сябе ў належнай форме і захоўваў мужчынскі этыкет.

І вось адбылося нечаканае. Узнагароджанне закончылася, а Івана Пятровіча «забылі». Марыя Іванаўна, якая сядзела побач, паглядзела на небараку як на нябожчыка, а Пётр Спірыдонавіч кінуў у яго бок зларадны позірк, бо лічыў сябе больш вартым кандыдатам.

**Віктар РЭЧЫЦ**

## «Героі» вуліц

Калісьці ў каляіну
Жаба села,
Перакуліць там
З сенам воз хацела.
А зараз
Безгаловыя падлеткі,
Без «клёпак» юнакі –
Псеўдаатлеты,
Каб паказаць
Над некім перавагу,
Тым самым на сябе
Звярнуць увагу,
Перад аўто
Шашу перабягаюць,
Нібы жыццё
Адно ў запасе маюць.
Рызыкаваць
Нікольkі не баяцца?
Канец такі быць можа,
Як у байцы...

*г. Івацэвічы.*

Іван Пятровіч і ўявіць не мог, за які грэх яму так бессаромна плюнулі ў душу. Пакрыўджаны да слёз, ён дамоў не паехаў, а каб хоць крыху супакоіцца, застаўся начаваць у сына, які жыве ў сталіцы.

Як высветлілася пазней, старшыня раённай ветэранскай арганізацыі Сцяпан Міхайлавіч позна выслаў у Мінскі абласны савет прадстаўленне да ўзнагароджання. Ганаровую грамату наш герой усё ж атрымаў, але не на ўрачыстым сходзе ў Мінску, а дома.

**Аляксандр ЖУКОЎСКІ,**
*г. Клецк.*






Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.








Аляксандр ПЯТРОЎ х 3.

**Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ**

# Катавасія

*Гумарэска*



Кошка Мурка ступае мякка, паважна, аб ногі ласціцца, амаль штурхаецца, і хвастом высокім ды пругкім казытліва кранаецца костачак. А на золку хусткай пуховай на грудзі ляжа да Шуры і «мур-мур-мур»...

## Мініяцюры

Жанчыны не знойдзеш, напэўна,
такой,
Якая б не мела ўсяго пад рукой.

* * *

Гавораць суседкі: я лёгкіх паводзін,
З мужчын жа не скардзіўся шчэ
аніводзін.

* * *

Надоечы дзяўчына Люба
Зайшла ў салон «Усё для шлюбу».
Ды толькі ўсё было дарма –
Там жаніхоў чамусь няма.

* * *

Пупок дачушка пракалола,
А жонка – у машыне кола.
Ніколі, людзі, дайце веры,
Не еў смачнейшае вячэры.

Сабака Сняжок, як дзіцячая цацка. Нос — бліскучы гузік, а сам белы і патлаты. Мішка заўсёды з ім без павадка гуляе, бо любіць Сняжок пабегаць. Жвавы вельмі!

— Апошні раз цябе, Мішка, папярэджваю: сабаку свайго бруднага, смярдзючага ў вёску вязі! Не месца яму ў шматпавярховым доме, — абуралася на суседа Шурачка.

— Лепш кошку сваю выкінь! — злаваўся Мішка.

Аднойчы Сняжок запрыкмеціў Мурку ды брэхам зайшоўся — аглушальна-звонка, бесперапынна. Суцэльны струмень сабачай лаянкі. Мурка не вытрымала: выгнула спіну, хвост распушыла, пайшла ў атаку на Сняжка. З гладкай падушачкі кіпцюры з'явіліся, вось імі сабачы нос і зачапіла.

Заскуголіў ваяка, спалохана прыціснуў свой закручаны, як у парасяці, хвосцік і пабег да Мішкі, а Мурка шуснула на дрэва.

Што тут пачалося! Гаспадар схапіў лесвіцу і прыставіў яе да дрэва.

— Не ўцячэш ад мяне, паласатая злосніца! — пагражаў Мішка.

Шурачка бегае, галосіць, просіць Мурку з дрэва не злазіць. Але кошка сама добры ваяка. Як варожую руку ўбачыла над сваёй галавой, па ёй кіпцюрком, быццам лязом, і шаснула.

— Малайчына, Мурка! — узрадавалася Шура.

— Яшчэ паглядзім, хто каго! — акрываўленым кулаком пагразіў у адказ Мішка.

А вечарам зніклі і Сняжок, і Мурка. Зазбіралася Шурачка ў міліцыю, а ўслед за ёй і Мішка.

— Забіў, мабыць, маю Мурку, — плакала Шурачка.

— Такога сабаку загубіла! — стагнаў Мішка.

Міліцыянер слухаў няўважліва, корпаўся ў сваіх паперах, ды тэлефон у яго бясконца званіў.

— Скаргі я вашыя выслухаў. Чакайце, хутка прыйдзе ўчастковы і разбярэцца, — нарэшце сказаў ён.

Мішка, калі выходзіў, хацеў Шурачку за валасы пацягнуць. Ды пабаяўся! Толькі руку дагары ўзняў. А Шурачка, смелая такая, як дзверы зачыніліся, адразу плюнула суседу ў твар. На тым і разышліся.

Участковы прыйшоў да скандалістаў на наступны дзень. Не адзін, а з Муркай і Сняжком. Сабачка пад адной рукой вісіць і вінавата на гаспадара глядзіць, а пухнатая «мамзэль» пад другой — пырхае, вырываецца, хвастом паласатым б'е.

— Вось і ўся катавасія! — кажа міліцыянер. — Заходжу я ў ваш пад'езд, а гэтыя два галубкі ў абдымку на батарэі грэюцца. Кажуць, дзеці з суседняга дома на выхадныя прыкармілі-прытулілі чатырохлапых.

Здаецца, малыя неразумныя жывёлкі, а памірыліся хутка. Не тое, што людзі — з-за глупства, бывае, усё жыццё не размаўляюць.

*г. Гомель.*

* * *

Здзівіла Зося макіяжам:
Не абышлося тут без сажы.

* * *

Не сорам, што жыць вымушаны
бедна,
А сорам, што каштуеш адпаведна.

* * *

Не размаўляю з мужам тыдзень,
А ён таму і рады, злыдзень.

* * *

Не пярэчце Мані вы ніколі:
Шафа сапраўды стаіць на століі.
Каб упэўніцца, спытайце Лізу,
Тую, што жыве пад Маняй знізу.

* * *

У жанчыны — вывад просты —
Бачым толькі два мы ўзросты:
Першы ўзрост — да макіяжу,
Пра другі мыццё падкажа.

**Алесь КОРНЕЎ,**
*г. Баранавічы.*




Алег ГУЦОЛ.

5 серыя

Серыял Вожыка ПАДМАНАМАНІЯ

# Разгадка варажбы




Галя, не трэба нікуды ехаць!


Я ёй таксама паваражу.
Запрасі да нас сваю сяброўку.


Наступным вечарам…
Сядзі ціха!


У цябе нервовая праца, хварэеш як мінімум два разы на год, замужам, маеш сына, які вучыцца ў школе. А яшчэ дрэнна спіш…


Усё так і ёсць!


Ідзі спакойна, ніякай псоты на табе няма.
Дзякую, бывайце!
Як ты змог?


Вельмі проста! На руцэ пярсцёнак – ёсць муж. Калі да нас прыйшла, размаўляла па тэлефоне з сынам, каб рабіў урокі. Хварэе, бо працуе ў школе, дзе, як ты некалі казала, грып ходзіць два разы на год, вясной і восенню. Кепска спіць, бо работа нервовая, бухгалтар усё ж такі. У сумцы былі балансавыя паперы і калькулятар.


Вось такая разгадка варажбы!
Усё!
Працяг будзе…

# Эпіграмы

## Віктар РЭЧЫЦ

### Таццяне Дземідовіч

Таніна стыхія –
Смехатэрапія.
Слова ад Таццяны
Нават гоіць раны
У душы, у сэрцы –
Чалавек смяецца.
І укол гумарыстычны
Для яе зрабіць – прывычна:
Ціха, асцярожненька...
Чым? Калючкай «Вожыка».

### Міколу Шабовічу

Міколы Шабовіча вершы
Ў паэтаў заўжды нарасхват.
Пародый – і горшых, і лепшых –
На творы напісана шмат.

Яго рэкардсменам, няйначай,
Зрабіць парадыстам карціць.
Ды толькі Мікола не плача,
На справу іначай глядзіць.

Хай для парадыстаў знаходка,
Ды не застаецца ў даўгу:
«І сам я прамою наводкай
Па творах чужых біць магу!»

*г. Івацэвічы.*



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.

## Віктар КУНЦЭВІЧ

### Як абяззброіць сатырыка

### Міколу Падабеду

Усю праўду можна чыста
Распавесці гумарысту –
І, як у людзей вядзецца,
Ён, дзе смешна, пасмяецца
Ды дадасць крыху гратэску,
І – чытайце гумарэску!

Іншы ракурс, калі ён
Змесціць вас у фельетон.
Тады вас агорне жалем,
Што ўсю праўду расказалі.
Ды, вядома, кожны знае,
Што ў мех шыла не схаваеш.
Хоць маўчаць, як рыба, будзеш,
Праўду ён раскажа людзям.

Вывад: лепш не махляваць,
Шчыра жыць і працаваць.
І тады сатырык колкі –
Вожык, што згубіў іголкі.
І ніхто не будзе ведаць,
Як далей жыць Падабеду.

*г. Магілёў.*




# КНІГА

*Гумарэска*



— Мужчына, што вы хацелі? — спытала бібліятэкарка з-за сваёй кафедры.

Наведвальнік падаў кнігу.

— Вам яе запісаць?

— Гэта мая кніга, — сказаў мужчына. — І я жадаю перадаць яе ў дар бібліятэцы.

— Прыемна! — усміхнулася кабета і прыняла кніжку.

— Выданне рэдкае, выйшла невялікім тыражом. Яе аўтар, дарэчы, мой добры знаёмы, прафесійны гісторык, займальна распавядае пра гісторыю нашай краіны. Калі ласка, прыміце і карыстайцеся.

Калі той развітаўся і выйшаў, бііятэкарка пайшла з кнігай да дырэктара. Расказала пра дзіўнага наведвальніка і працягнула падарунак.

— Пакажыце, што за талмуд. Гаворыце, што малым тыражом выйшла. І вокладка нейкая ляпістая. Няйнакш, нейкі нізкаякасны твор. Вось і распіхваюць бясплатна па бібліятэках. Здай яе на макулатуру, навошта яна нам, толькі месца будзе займаць ды пылам пакрывацца, — пакруціўшы ў руках кнігу, вынесла свой вердыкт дырэктар.

Бібліятэкарка так і зрабіла: пазбавілася ад падарунка.

А праз месяц у цэнтральнай газеце была надрукавана рэцэнзія на гэтую самую кнігу, дзе яна рэкамендавалася як дапаможнік па вывучэнні гісторыі для школьнікаў і студэнтаў. У газетным артыкуле з захапленнем было адзначана, што твор запатрабаваны чытачамі, карысны пры падрыхтоўцы да экзаменаў.

— Скажу праўду, мы паспяшаліся з вывадамі. Шкада, што так атрымалася, — гартаючы газету, гаварыла начальніца.

— А што мне сказаць таму чалавеку, калі ён раптам заявіцца да нас і пацікавіцца лёсам падоранага ім выдання? Гэта ж будзе скандал. Прэзэнтавалі кнігу, можна сказаць, фаліянт, а мы, кнігалюбы, яе здалі ў макулатуру, — ледзь не плакала бібліятэкарка.

— Што вы лямантуеце? Так і скажаце, як у газеце надрукавана: кніга запатрабавана чытачамі, асабліва школьнікамі і абітурыентамі, і яе ў бібліятэцы не застаць! — знайшлася дырэктарка.

**Віталь ЖУРАЎСКІ,**
*г. Жодзіна.*



Аляксандр ПЯТРОЎ.




## Аляксандр БЫКАЎ

### Напішу і... за мяжу!

*Вершык гэты напішу*
*Надакучлівым харэем.*
*Вершык гэты раскажу*
*Бацьку,*
*Маці,*
*Бабе,*
*Дзеду.*
*І паеду,*
*І паеду,*
*І паеду*
*За мяжу.*

*Анатоль ТРАФІМЧЫК*

Вершык гэты напісаў
Ці то ямбам, ці харэем.
І бядак чытач самлее
Ад наватарскіх забаў.
І цяпер я раскажу
Усёй радні. Няхай без нерваў
Мне падкінуць трохі еўраў,
Бо сабраўся за мяжу.

Толькі аб адным малю:
Каб не йшлі за мной па следу.
Лепш па вершыку прышлю
Бацьку,
Маці,
Бабе,
Дзеду!

### Газетны раман

*Ты прыходзіш,*
*як «ЛіМ»,*
*па пятніцах.*

*Аксана СПРЫНЧАН*

Праклінаю стылыя раніцы!
Столькі, міленькі, лет і зім
Ты прыходзіш толькі па пятніцах —
Не раўнуючы, быццам «ЛіМ».

Так змарнее жаданне, скволіцца,
Што сказаць мне яшчэ табе?
Каб разбавіць мае бяссонніцы,
Хоць на тыдзень ты стань «СБ»!




## Каханне бог не дапамог

Гадоў нямала адматаў,
Ды не спазнаў кахання.
У адзіноце сустракаў
Змярканні і світанні.
Але аднойчы Купідон
Спусціўся з неба ў госці.
Чамусьці, праўда, з лукам ён,
Са стрэламі – чагосьці...
Падумаў нават: прайдзісвет,
Хоць знешне сімпатычны.
На самай справе бог – паэт,
Вясковы, не сталічны.
Глядзіць са мною на дзяўчат,
Знайшоў амаль святую.
Дае мне лук і стрэлаў шмат,
Крычыць: «Страляй у тую!»
Не стаў хутчэйшым сэрца стук
Ад выгляду дзяўчыны.
Аддаў я Купідону лук:
З тае, кажу, прычыны,
Што не святую я хацеў –
Мне жар душы патрэбен,
Каб у пяшчоце грэшнай цел
Пачуць яе малебен...
Кіўнуў са скрухай Купідон
Віхрастай галавою.
Падазраю, не будзе ён
Вазіцца больш са мною.

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*

## Казловы метамарфозы

*Байка*

Казёл аднойчы на кіруючай
пасадзе
Знянацку апынуўся па загадзе
Вала самога. Не сакрэт для
многіх,
Што Вол з Казлом з сямейства
«пустарогіх».
Як барадач кіраўніком зрабіўся,
Ў паводзінах сваіх зусім змяніўся.
Знаёмых перастаў ён пазнаваць,
Суседзяў забываўся прывітаць.
І толькі больш высокаму
начальству
Штодзённа не стамляўся
дагаджаць.
Ён з калектывам быў даволі
грубы,
Зняважыць мог і гаварыў праз
зубы.
Сварыцца з жонкай стаў сваёй,
Казой,
Завёў раман з Казуляю адной.
Прыдбаў сабе аж два аўтамабілі,
Яшчэ ў дадатак (Совы гаварылі)
Вяртаўся часта п'яным ён дамоў.
Ды Вол з пасады звольніўся
сваёй –
Казёл затрос нервова барадой,
Бо з недалёкім розумам,
прызнацца,
Не змог у мяккім крэсле
затрымацца.
Дзе ж тая пыха? Наш Казёл
змяніўся,
Нібы наноў на свет ён нарадзіўся.
Былых калег пачаў зноў
пазнаваць,
Увагу ды павагу праяўляць.
***
Сюжэт для гэтай байкі я знайшоў
Ў адной з сур'ёзных нашых
устаноў.

**Уладзімір ГРЫШЧАНКА,**
*г. Гомель.*












Малюнкі Анастасіі СКАРКО
і Міхася СТЭФАНЕНКІ.






## Без здрады да праўды

*Павел Міхайлавіч Губенка, больш вядомы нам як Астап Вішня (1889–1956) – украінскі пісьменнік, гумарыст, сатырык і фельетаніст. У свой час працаваў начальнікам медыка-санітарнага ўпраўлення Міністэрства чыгунак УНР. Друкаваўся ў такіх часопісах і газетах, як «Народная воля», «Вести ВУЦИК», «Крестьянская правда», «Перец», «Радяньська Украина» і інш. Распрацаваў новы мастацка-публіцыстычны жанр – усмешку – разнавіднасць фельетона і гумарэскі.*

*«Толькі праўда была павадыром у маім жыцці. Я ніколі не здрадзіў праўдзе», – прызнаваўся пісьменнік. Гэты прынцып, безумоўна, адлюстраваны ў творчасці Астапа Вішні, які вядомы сваімі актуальнымі і злабадзённымі фельетонамі. З адным з іх мы прапануем пазнаёміцца.*

**Астап ВІШНЯ**

## Лоўкасць

*Фельетон*

А каму, скажыце, не хочацца есці свой кавалак хлеба з маслам?

Ой, усім хочацца!

Але вы ж ведаеце, што для таго, каб есці нават невялікі кавалачак хлеба з маслам, неабходна той хлеб і тое масла мець.

А для таго, каб той хлеб і тое масла мець, трэба той хлеб і тое масла купіць.

А для таго, каб той хлеб і тое масла купіць, патрэбна мець грошы.

А для таго, каб мець грошы, неабходна іх зарабіць...

Ах, дзіўныя вы людзі! Ды для таго, каб тыя грошы зарабляць, ёсць жыллёвы крызіс у Харкаве...

Вы не маеце грошай? Дык ідзіце ж і гаварыце ўсім, што вы маклер. Што толькі вы, што ніхто іншы, апроч вас, не знойдзе такі пакой. Ніхто на свеце...

І ўсё...

І тады ў вас будуць грошы і будзе ў вас свой сумленна зароблены кавалак хлеба з маслам...

І будзеце вы жыць усміхаючыся і кожны вечар маліцца свайму богу:

«Божачка! Працягні ты на многія гады жыллёвы крызіс!»

Называцца маклерам няцяжка. Крышачку цяжэй (і толькі крышачку!) знайсці дзе-небудзь (лепш, безумоўна, у цэнтральным раёне) у двары які-небудзь паўразвалены хляўчук. І вы багач...

Вы ловіце (правільней, вас ловяць) чалавека, які шукае пакой. Такіх людзей у Харкаве вы самі ведаеце колькі...

– Вам патрэбен пакой?

– Галубок! Патрэбен! Шэсць месяцаў патрэбен!

– Я магу прапанаваць вам памяшканне (гаварыць лепш «памяшканне», а не «пакой»). Цэнтральны раён, у двары, першы паверх... У будынку ёсць электрычнасць, вада і цэнтральнае ацяпленне... Нават адступнога не трэба. Будзеце плаціць за кубатуру...

– Галубок! Пакажыце!

– Можна і паказаць, але пры ўмове... Не спадабаецца – тры рублі за клопат...

– Галубок! Вядзіце!

Вы ведзяце.

– Не спадабалася? Тры рублі...

– Вы ж сказалі: электрычнасць, вада, цэнтральнае ацяпленне?..

– Я сказаў: у будынку. Там ёсць... Зайдзіце, паглядзіце... Ні на ёту не збрахаў. А што тут няма...

Я і не казаў, што ў гэтым памяшканні ёсць. Тут няма.

– Гэта ж хлеў...

– Па-вашаму, хлеў, а па-мойму, памяшканне... Давайце тры рублі. Слова...

Так чалавек пяць за дзень прыведзяце, і будзе ў вас і хлеб, і масла...

Спяшайцеся, грамадзяне! Шмат людзей так зарабляюць. І вельмі нядрэнна жывуць.

**Пераклад з украінскай Міхася СЛІВЫ.**




Пётр КОЗІЧ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



# Здзівіў дык здзівіў

*Гісторыйка*

Зойка, мая закадычная сяброўка, была яшчэ з дзяцінства завадная ды баявая. Без яе ўдзелу не абыходзілася ніякае мерапрыемства: ні ў школе, ні ў мясцовым клубе, ні потым у інстытуце, а пасля зноў у школе, дзе Зойка стала працаваць настаўніцай малодшых класаў.

А вось мужа, Пятра, яна выбрала сабе з зусім супрацьлеглым характарам: спакойнага, памяркоўнага, цярплівага. Як характарызавала яго сама Зойка – рахманага. І за гэтыя ж рысы яна мужчыну па-ўсякаму дапякала. Той, небарака, цярпеў, бо кахаў сваю жонку. Але зрэдку ўсё ж такі збягаў ад Зойкі, якая «не давала яму дыхнуць», на рэчку. Рыбалку мужчына лічыў за свята. Жонка ж ягоная так не лічыла. І вось у чарговы раз, калі Пятро вярнуўся з рэчкі, яна пачала сварыцца:

– Зноў выхадныя прагуляў. Ужо можна было рамонт распачаць. Што ты за ёлупень такі, ні на што не прыдатны! Нават здзівіць мяне нічым не можаш!

– Я? – ускрыкнуў муж, потым на нейкі момант задумаўся і выдаў: – Давай паспрачаемся на патэльню рыбы, што зраблю нешта такое, каб ты слова вымавіць не змагла!

Зойка, упэўненая ў мужавай няздатнасці, лёгка дала згоду.

– Колькі часу табе патрэбна? – дзелавіта спытала яна Пятра. Той, доўга не думаючы, адказаў:

– Ды ўсяго пару дзён. Ты, даражэнькая, з'ездзі на выхадныя ў вёску, праведай бацькоў, а я за гэты час і спраўлюся.

Зойка была крыху збянтэжана такой рашучасцю, але не падала выгляду. Хутка сабрала рэчы і паімчала на аўтавакзал. У роднай вёсцы праведала свякроўку, дапамагла з тым-сім па гаспадарцы, потым адправілася да сваіх бацькоў. Не заўважыла, як праляцелі адпушчаныя ёй два дні. Увесь гэты час яна, заінтрыгаваная мужам, усё разважала, што ж ён такое можа зрабіць, каб здзівіць

яе? Думкі мроіліся ў галаве: «Мусіць, духі якія купіць? Дык што тут незвачайнага? Ці пазычыць у сяброў грошай ды набудзе футра, на якое я ўвесь час касіла вокам? Або запросіць на канцэрт якой зоркі?»

Гэтых «мусіць» было безліч, і жанчына ледзь дачакалася канца сваёй «камандзіроўкі». Напоўненая радаснымі думкамі-прадчуваннямі, Зойка дрыжачымі рукамі адкрыла замкі на дзвярах сваёй кватэры і гатова была ляцець, каб паглядзець на мужава дзіва... ды так і засталася стаяць на парозе. З рук у яе выпалі сумкі з вясковымі гасцінцамі ад бацькоў. Сюрпрыз быў перад ёй. Пачынаўся ён ад самага парога кватэры з пафарбаванай у белы колер падлогі, на якую боязна было ступаць у чаравіках з вуліцы, а працягваўся столлю... памаляванай у карычневы колер. Жанчыне падалося, што кватэра перакруцілася дагары нагамі.

«Можа, гэта я так стамілася з дарогі, вось і прымроілася?» — падумала Зойка і страсянула галавой. Але карціна навокал не змянілася, а наадварот, ажывілася: з глыбіні калідора да яе набліжаўся муж. Ён шпацыраваў у бялюткіх тапках, а ў руцэ нёс такія ж для яе. Ад пабачанага дзіва Зоя знепрытомнела і ціха апусцілася на падлогу.

Ачомалася небарака на канапе. Побач сядзеў муж:

— Можаш нічога мне не казаць, сам бачу, што здзівіў, ды яшчэ як! А ты сумнявалася, — абрадавана заявіў Пятро ажыўшай жонцы. — Дык што? Патэльня рыбы за табой?

— За мной, — толькі і змагла прамовіць Зойка.

**Раіса ДЗЕЙКУН,**
*Гомельскі раён,*
*агр. Бабовічы.*

## Зяць — толькі як яго ўзяць…

Аленцы было толькі васямнаццаць, калі Ігар, з якім сябравала, прапанаваў замуж. Бацькі дзяўчыны навіну ўспрынялі ў штыкі.

— Дзеці яшчэ горкія, якая тут жаніцьба! — павучалі дачку. — Скончы вучобу, атрымай прафесію, каб стаць на ногі ды не залежаць ад нейкага там таўкача. Ведаем, якія яны цяпер... Твайго Ігарка ніхто не ўхопіць, не перажывай. Гультаяваты — не працуе, не вучыцца — хто за яго пойдзе?

Адтэрмінавалі бацькі вяселле. Прайшло чатыры гады, а пра вяселле ў сям'і ўжо ні гу-гу. Праўда, не разбегліся Алена з Ігарам, сябруюць. За гэты час дзяўчына вывучылася на тэхнолага, уладкавалася на добрую працу. Нядрэнна зарабляе і Ігар. Акрамя таго, завочна паступіў у інстытут. Бацькі Алены ўжо і не супраць, каб яны пажаніліся, але хлопец усё маўчыць. Вось тут і зяць, але як яго ўзяць?

**Ірына БУДЗЬКО,**
*г. Вілейка.*

## Пацыркушкі



Аляксандр ШМІДТ.




Алег ПАПОЎ.



Алег ГУЦОЛ.




## Лёля БАГДАНОВІЧ

## Зязюльчыны слёзы

*Казка*

У адным хваёвым лесе побач з сінічкамі, вераб'ямі, дзятлам, варонай, шпакамі і іншымі птушкамі жыла шэрая зязюля. Пералятала з дрэва на дрэва, ласавалася вусенямі, гады лічыла. А вось дзетак гадаваць ленавалася. І прыдумала яна яйкі свае ў чужыя гнёзды падкладваць.

– Няхай іншыя іх выхоўваюць! Мне ж яшчэ павандраваць хочацца, на іншых птушак паглядзець ды сябе паказаць. А дзетак паспею завесці.

І куды толькі ні лятала шэрая, з кім толькі ні знаёмілася!

– Ты дзе на гэты раз была? Дзе гэткія пацеркі бліскучыя прыдбала? – пацікавілася неяк варона.

– Ат, гэта дробязь. Да дзятла ў госці лятала. Пасядзелі трошкі, гарбаткай пачаставаліся. Вось і падарыў мне пацеркі.

З наступнай вандроўкі прымчала зязюля ў нейкай надзвычай моднай камізэльцы.

– Ого! – здзівіўся шпак. – Ад каго такая? Няйначай, замежная?

– А як ты думаў? Зразумела, не наша. Бусел падарыў. З-за мора прывалок, спецыяльна для мяне. Была ў буслянцы, чаго толькі там ні ела, чаго ні піла! Ну і жывуць, скажу я вам! Не тое, што іншыя...

У наступны раз з'явілася шэрая ў чырвоных чаравічках.

– Якія пекныя! – убачыўшы зязюлю, усклікнула сінічка. – Вось бы мне такія! Дзе ўзяла?

– Дзе ўзяла, там няма ўжо, – буркнула шэрая ў адказ, – перапёлачка падарыла. Неяк пазнаёміліся з ёю ў вандроўцы.

Час ішоў. Зязюля ўсё гойсала, красавалася. Ды падкідвала ў птушыныя гнёзды свае яйкі. Іншы раз такой маленькай птушачцы падкіне, што тая ледзь спраўляецца карміць чужое дзіця. І вось здарылася аднойчы бяда: захварэла шэрая зязюля.

– Ку-ку! Ку-ку! Дзе ж вы, мае крывіначкі? – пачала гукаць яна. – Хто ж мяне пашкадуе? Хто чарвячка прынясе ды вадзічку падасць? – лямантавала на ўвесь лес зязюля.

Але так ніхто і не адгукнуўся. Горка заплакала шэрая. І на плач гэты ўсё ж адна дачушка прыляцела. Пашкадавала яна родную маці. Гарбатай яе напаіла, мядком накарміла, пяшчотаю атуліла. Ажыла старая зязюля. І з гэтага моманту перастала быць такой легкадумнай. Бо зразумела: калі клапаціцца толькі пра сябе, не будзе каму ратаваць цябе з бяды.

*г. Барысаў.*




## Вольга ЛАБАЖЭВІЧ

Хто нас кліча на урок?
Усе ведаюць: ...

*(Званок.)*

* * *

Калі шар той пакруціць,
Можна Афрыку знайсці,
Акіяны ўсе і моры,
Стэпы ды пустыні, горы.

*(Глобус.)*

* * *

На адной назе Рыгор,
Не спартсмен і не танцор.
Не палічыш і да двух –
Хуценька начэрціць круг.

*(Цыркуль.)*

* * *

Словаў шмат наш сябар знае,
Ды ні з кім не размаўляе.
Варта адгарнуць – і ўраз
На пытанне дасць адказ.

*(Слоўнік.)*

*г. Клецк.*



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

## Крывая мушка

Мы збіраемся на ток,
На цецеруковы.
Гільзы, порах, малаток –
Скарб наш адмысловы.

Тата порах адмяраў,
Забіваў пыжамі.
Важны, быццам генерал,
У сваёй піжаме.

Я сачыў, раскрыўшы рот.
І дазволіў тата
Засыпаць у гільзы шрот
Меркаю пузатай.

Я на кухню (быццам піць),
Сам – па проса. Потым
Гільзы ўсе паспеў набіць
Зернем, а не шротам.

А назаўтра на таку –
Толькі не смяяцца –
Бацька па цецеруку
Біў разоў сямнаццаць.

З двух ствалоў як пекане!
Цецярук буркоча.
Тата гляне на мяне –
Я адводжу вочы.

Гэтак цэлы патранташ
Высмаліў па птушках
Ды ад злосці плюнуў аж:
– Цьфу, крывая мушка!

Мне ж найлепей прамаўчаць,
А то ўсыпле кашы...
Ён паліў па касачах
Просам з кухні нашай.

**Фёдар ГУРЫНОВІЧ,**
*г. Салігорск.*




## Забалела спіна

– Мама, я ўжо старэю! – кажа маленькі Паўлік.

– Чаму ты так вырашыў?

– У мяне, як і ў дзеда, забалела спіна...

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*






Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.



Аляксандр ШМІДТ.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.




Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



## «Лектар» і «таксіст»

*Іранеска*

Юрый Пятровіч ехаў у таксі чытаць лекцыю перад моладдзю пра культуру сямейнага жыцця. Тут прыходзіць паведамленне ад палюбоўніцы: «Свабодна, чакаю, прыязджай». Мужчына ўсхваляваўся. Абняў таксіста, ледзь не цалуе:

– Браток, выручай!

Той ад нечаканасці рэзка затармазіў. Юрый Пятровіч працягнуў:

– Будзь сябрам, прачытай за мяне па канспекце лекцыю і дай мне сваю машыну – плачу дзённую выручку.

Такія прапановы бываюць рэдка, адмаўляцца малады вадзіцель не стаў. Калі лекцыя падыходзіла да завяршэння, шэф з ключамі ў руцэ ўжо стаяў у праходзе. Нечакана адзін слухач задае «лектару» пытанне, маўляў, як вы растлумачыце словы Пушкіна «любви нас не природа учит»?

– На гэтае пытанне вам адкажа вопытны «таксіст». Юрый Пятровіч, калі ласка, праходзьце за трыбуну і падзяліцеся з моладдзю сваім вопытам. Лектар расчырванеўся. Таксіст падхапіў у яго з рук ключы і з усмешкай пакінуў аўдыторыю.

**Ірына КАРАЧУН,**
*г. Баранавічы.*



## Падарунак нябёсаў

Вось каб аднойчы з неба зваліўся скарб, які б у адзін момант мог змяніць жыццё чалавека ў лепшы бок, прынесці дастатак і дабрабыт! Хочаце – верце, хочаце – не, але ў аднаго мужчыны з Маладзечна такое летуценне збылося. Нядаўна ён знайшоў на вуліцы банкаўскую картку, якая была закручана ў паперку з пін-кодам.

Маладзечанец не паверыў спачатку, што такое шчасце выпала на ягоную долю, і доўга круціўся каля банкамата. Мужчына вырашаў: прыняць такі падарунак нябёсаў ці ўсё ж паспрабаваць вярнуць картку ўладальніку. Але не стрымаўся ды зняў грошы – 1000 рублёў.

Пры гэтым трапіў у поле дзеяння камеры відэаназірання, і «шчасліўчыка» пачала шукаць міліцыя. Калі яго затрымалі, большую частку грошай той ужо патраціў. Але прызнаў сваю віну, пакаяўся і абяцаў вярнуць усю суму. Зараз матэрыялы па гэтай справе накіраваны на прававую ацэнку.

Калі і вам раптам трапіцца такі падарунак нябёсаў, наша парада – сто разоў падумаць і не паўтараць памылак мужчыны з Маладзечна.




## Весела ці не?

А што робіце вы ў хвіліны весялосці? Можа, пачынаеце спяваць, танчыць ці пляскаць у ладкі? У кожнага свае праявы добрага настрою, але часам трапляюцца сапраўдныя унікумы, якіх радасць падштурхоўвае да дзіўных учынкаў.

Напрыклад, 22-гадовы хлопец разам з сябрамі завітаў неяк вечарам у прыдарожнае кафэ ў Івацэвіцкім раёне. Ён смяяўся, жадаў перадаць зарад пазітыву ўсім, хто быў побач. А потым... зняў штаны і прадэманстраваў тое, чым надзяліла яго прырода. У дадатак крыху пазней падчас танцаў хлопец залез на стол і агаліў ягадзіцы. Апраўдваўваўся проста: «Мне вельмі весела!»

Вось толькі ні сябры, ні наведвальнікі кафэ, ні міліцыянеры «выступленне» не ацанілі. Хлопца затрымалі, абвінавацілі ў хуліганстве, а суд прыгаварыў яго да штрафу ў памеры 35 базавых велічынь. Спадзяёмся, што зараз «стрыптызёр» будзе дэманстраваць свой добры настрой іншым спосабам.

## Хамка

Ёсць жа такія сварлівыя жанчыны, што пры кожнай магчымасці ўздымаюць лямант, крычаць, раскідваюцца крыўднымі словамі. Аб'ектам знявагі можа стаць чалавек любога полу, дастатку і прафесіі. І не дай вам бог трапіць пад гарачую руку такой хамкі!

Але працаўніку адной з віцебскіх аптэк не пашчасціла, калі падобная асоба зайшла са сваім сабакам да яго па таблеткі. Правізар адразу ж сказаў ёй, маўляў, з чацвераногімі гадаванцамі нельга, калі хочаце, то пакіньце яго на вуліцы і прыходзьце па лекі. І тут, як гавораць, Астапа панесла. Жанчына запатрабавала кнігу заўваг і прапаноў, потым пачала сыпаць абразамі. Мужчына спакойна адказваў ёй. У самым пачатку размовы ён паведаміў наведвальніцы, што ўсё запісваецца на відэакамеру. Але хамку гэты не спыніла. І калі ёй надакучыла абыякавасць аптэкара, яна купіла ўсё неабходнае і пайшла.

Мужчына ж вырашыў, што такое хамства нельга пакінуць без увагі, і апублікаваў відэа ў інтэрнэце. А пасля гэтым здарэннем зацікавіліся праваахоўныя органы. Жанчыне прад'явілі абвінавачванні ў абразе (наўмыснае прыніжэнне гонару і годнасці асобы, выказанае ў непрыстойнай форме). Ужо быў суд, які аштрафаваў яе на 368 рублёў. Мы лічым, што падобная гісторыя і пакаранне – добрая навука для ўсіх хамаў і хамак. А як мяркуеце вы?

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**






Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

## Мініяцюры

Цвіла да шлюбу ружай-кветкаю,
Такі прыемны мела пах!
Цяпер хацелася б нам з дзеткамі,
Каб ежай пахла ў чыгунах.



* * *

Гэту ісціну прымі —
Можа, калі ўспомніцца:
Колькі воўка ні кармі,
А свіннёй не зробіцца.



* * *

І касец я, і млынар,
З працы грошы маю.
Толькі кепскі гаспадар:
Хутка прапіваю.



* * *

Хоць свая кашуля
Была бліжэй да цела,
Прыхапіць чужую
Мне заўжды карцела.



* * *

Ніколі Ясь не працаваў
Па гаспадарцы рупна,
Ды ўсё-ткі траўму атрымаў —
Аб палец пальцам стукнуў.



* * *

Дзетак-кветак «насаджаць» —
Многа розуму не трэба.
Потым як пагадаваць,
Каб усім хапіла хлеба?

**Уладзімір РУНЦЭВІЧ,**
*г. Мар'іна Горка.*

16+

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 10 (1549), 2017 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by; vozhyk@zviazda.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 09.10.2017. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,58. Тыраж 831 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Пётр КОЗІЧ.